**Н. І. Бракала**
**Г. Б. Кажанеўская**
**В. А. Місцюк**

# МУЗЫКА

Вучэбны дапаможнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

Для работы ў класе

*Дапушчана Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

Мінск
«Адукацыя і выхаванне»
2012

УДК 78(075.2=161.3)
ББК 85.31я71
Б87

Р э ц э н з е н т ы: кафедра методыкі музычнага выхавання, тэорыі музыкі і ігры на народных інструментах установы адукацыі «Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова» (кандыдат педагагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры *В. П. Рэва*); намеснік дырэктара па ідэалагічна-выхаваўчай рабоце дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 179 г. Мінска», настаўнік вышэйшай катэгорыі *І. В. Дамашэвіч*

У выданні выкарыстаны фотаздымкі з сайтаў: belarusopera.by; bolshoi.ru; musik.grodno.by; valeria-foto.livejournal.com

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

 – спявай

 – слухай

 – запомні

 – пытанні і заданні

 – спявай па нотах або назірай за мелодыяй па нотах

 – чытай разам з настаўнікам

**Бракала, Н. І.**
Б87 Музыка: вучэб. дапам. для 2-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання: для работы ў класе / Н. І. Бракала, Г. Б. Кажанеўская, В. А. Місцюк. — Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2012. — 144 с. : іл.
ISBN 978-985-471-517-9.

**УДК 78(075.2=161.3)**
**ББК 85.31я71**

**ISBN 978-985-471-517-9**

# Маленькі дружа!

Гэта незвычайная кніга дапаможа табе ўвайсці ў цудоўны свет музыкі.

Вельмі хочацца, каб яна стала для цябе добрым сябрам, адкрыла таямніцы і багацце музыкі. Навучыла яе слухаць і выконваць, разам з музыкай пазнаваць жыццё.



Раскажа табе пра цудоўны свет музыкі народны музыкант — Лірнік. Ад яго ты даведаешся пра сродкі музычнай выразнасці. Павандруеш з ім па такіх музычных краінах, як Опера, Балет, Сімфонія, Канцэрт. У добры шлях!

# ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

## Мая Беларусь
(урывак)




А ў маёй Беларусі
Столькі сіняга неба,
Столькі светлага сонца
І духмянага хлеба!

Вольна дыхаюць грудзі,
Сонца ласкава свеціць,
І мілей Беларусі
Мне няма ва ўсім свеце!

М. Зялёнка



## Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь

Словы М. Клімковіча,
У. Карызны

Музыка
Н. Сакалоўскага

Аб чым пяецца ў гімне? Як ён выконваецца (мякка, задумліва, урачыста, рашуча, велічна)?

**Гімн** — галоўная песня краіны. Яго спяваюць і слухаюць стоячы.

## Родны бусел

Словы Н. Галіноўскай Музыка С. Галкінай

1. Пакружыся, бусел,
Нізка над вярбой.
Чуцен Беларусі
Клёкат ціхі твой.

2. Разгарні ты крылы
Вольна на ўсю шыр.
Сонца пералівы
Поўняць слова «мір».



3. Міру ўсёй планеце,
Шчасця і святла
Хочуць усе дзеці
Горада, сяла.

4. Пасяліся, бусел,
Побач, на вярбе.
Песні Беларусі
Будзем пець табе.

Якія пачуцці выклікае песня (радасць, смутак, пяшчоту)? Перадай іх у сваім выкананні.
Намалюй часцінку роднага куточка.

Магутнае слова,
Ты, роднае слова!
Са мной ты наяве і ў сне:
Душу мне затрэсла
пагудкаю новай,
Ты песень навучыла
мяне…
Янка Купала



М. Савіцкі.
«Янка Купала»



Янку Купалу называюць беларускім Песняром. Яго вершы шчырыя, пявучыя. Яны сталі асновай песень многіх кампазітараў.

## Явар і каліна

Словы Янкі Купалы Музыка Ю. Семянякі

Які характар у песні?
Які настрой у цябе выклікае песня?

# СРОДКІ МУЗЫЧНАЙ ВЫРАЗНАСЦІ



Музыка, як і літаратура, і выяўленчае мастацтва, мае сваю мову, свае фарбы. У музыцы яны называюцца сродкамі музычнай выразнасці. Гэта — мелодыя, рытм, лад, тэмп, дынаміка, рэгістр, тэмбр. Пра іх ты даведаешся ў гэтым паўгоддзі.

## МЕЛОДЫЯ

Зямля ахутана мелодыямі, яна спявае. Кожную мелодыю можна не толькі пачуць, праспяваць, але і намаляваць.

Угледзься ў гэтыя малюнкі і паспрабуй іх агучыць.




Дапамагай сабе рукой — паказвай напрамак мелодыі.

# Прекрасен мир поющий

Словы У. Сцяпанава Музыка Л. Абелян

1. У каждого на свете
Есть песенка своя:
Поёт о счастье ветер,
Деревья и поля.



2. То радостно, то грустно,
То громче, то нежней
Поёт скворец искусный
И маленький ручей.



3. Шумит ли сад цветущий,
Идёт ли снег зимой —
Прекрасен мир поющий,
И ты с ним вместе пой!



Звярні ўвагу на мелодыю песні.
Выберы словы, якія найбольш ёй адпавядаюць (суровая, мяккая, лёгкая, урачыстая, радасная).
Выканай песню ў адпаведным характары.



Мелодыі запісваюцца знакамі — **нотамі**: . Яны размяшчаюцца на пяці лінейках — **нотным стане**.

До, рэ, мі, фа, соль, ля, сі — гэта музычны «алфавіт»-**гукарад**.




Ключ скрыпічны — гэта знак,
І малюецца ён так: 
Гэты ключ, як капітан,
Адкрывае нотны стан.

Л. Кебіч

Паглядзі, дзе знаходзяцца ноты на клавіятуры фартэпіяна.




Спявай гукарад і імітуй пальчыкамі ігру па «клавішах».



З дапамогай сямі нот складаюцца розныя мелодыі: плаўныя, хвалепадобныя, са скачкамі і іншыя.

Яны могуць рухацца ўверх:



уніз:




і быць на адной вышыні:




Каб мелодыя гучала прыгожа, яе «апранаюць» у рознае «адзенне». Гэта значыць, складаюць музычнае суправаджэнне — **акампанемент.**

Паслухай акампанементы да гэтых мелодый у выкананні настаўніка.

## Небыліца

Словы Л. Пранчака — Музыка Г. Ермачэнкава

1. До-рэ-мі-фа-соль-ля-сі!
   Ля канавы карасі,
   Ментузы і шчупакі.
   А ў канаве — рыбакі…

Прыпеў: Гаварыць далей
Ці — до?
Сі-ля-соль-
фа-мі-рэ-до!

2. До-рэ-мі-фа-соль-ля-сі!
   Заспявалі карасі,
   Ментузы і шчупакі.
   Паўцякалі — рыбакі…

Прыпеў.

3. До-рэ-мі-фа-соль-ля-сі!
   Ты не плач, не галасі.
   Бо калі ты сам рыбак,
   Адкажы, што тут не так.

Прыпеў.



Ці згодны ты з назвай песні? Чаму? Якая знаёмая табе мелодыя пранізвае ўсю песню? Назаві і праспявай яе.

## Музыка

Музыка лашчыць душу;
Можа яна нагадаць
Ветру асенняга шум,
Звон ручая,
Спеў салаўя;
Можа яна перадаць
Крык, цішыню,
Лёт матылькоў і арлоў.
Хораша так размаўляе без слоў!

В. Жуковіч

## Мелодыя

І. Жыновіч

Якія пачуцці выклікае ў цябе гэта музыка? Чаму? Хто і як «спявае» мелодыю?



Як бачыш, мелодыю можа выконваць не толькі голас чалавека, але і музычны інструмент.

## Ствараем песенькі



У чырвоных ботах
Ходзіць па балотах
Бусел даўганосы,
Жабы сабе носіць.

Дзед Мядзведзь стаміўся троху —
Лёг у мяккую бярлогу,
Смачна спалася яму,
Не ўставаў усю зіму.
Д. Бічэль-Загнетава





Раз, два, тры, чатыры,
Кошку грамаце вучылі:
Не чытаць, не пісаць,
А за мышкамі скакаць.

Уважліва прачытай тэксты вершаў, услухайся ў іх. Які з іх, на тваю думку, больш падыходзіць да песні, марша, вальса, полькі?
Уяві сябе кампазітарам. Прыдумай сваю мелодыю на адзін з тэкстаў.

**Светлы кастрычнік у празрыстасці чыстай, крынічнай…
Лістапад — залаты лістапад.**

## Кружева осенние

Словы і музыка Я. Жабко



1. Солнышко осеннее очень хлопотливое,
   Расшивает золотом листья и траву.
   И стоит берёзонька сказочно красивая,
   Сказка отражается в голубом пруду.
2. Кружева осенние — паутинки тонкие,
   Серебром запутались в золоте ветвей.
   И рябина красная, и калина спелая,
   И всё чаще слышатся крики журавлей.

Вызначы характар музыкі. Як ты разумееш назву песні? Спявай яе і «малюй» мелодыю пластычнымі рухамі рук.

## Раманс для кларнета, скрыпкі і фартэпіяна

А. Туранкоў

**Раманс** — задушэўная песня з суправаджэннем аднаго ці некалькіх музычных інструментаў.



Восеньская цеплыня разлілася па ўсім наваколлі. Сонечныя прамяні, як матчыны рукі, абдымаюць, песцяць прыроду. У гаі спрабуюць свае галасы маладыя шпакі. Часам у рацэ выплёхваецца рыба, каб зірнуць на гэту прыгажосць. Аднекуль даносіцца музыка, якая стварае настрой казачных мрояў. Душа ляціць у бясконцы Сусвет...

Падбяры словы, якія адпавядаюць характару музыкі (мяккая, гуллівая, маршавая, гарэзлівая, узнёслая, песенная, задушэўная). Як «размаўляюць» паміж сабой музычныя інструменты? Ці заўсёды яны гучаць адначасова?



Кожная песня, інструментальны твор маюць сваю мелодыю. Яна яскрава перадае характар, змест, асаблівасці музычнага твора.

# РЫТМ — «ЗАЛАТЫ КЛЮЧЫК» МУЗЫКІ



Угледзься ў малюнкі. Ці заўважыў ты, што ў прыродзе і ў жыцці ёсць свой рытм — чаргаванне розных з’яў?



У музыцы таксама ёсць **рытм**. Гэта чаргаванне розных (доўгіх і кароткіх) працягласцей (нот):



Такі запіс называецца **рытмічны малюнак.**



Каб прачытаць рытмічны малюнак, трэба ведаць рытмасклады.
Рытмасклады могуць быць:



– та (дон)
– ці-ці (дзі-лі)
– та-а (до-он)
– та-а-а-а (до-о-о-он)

Адпляшчы на рытмасклады «та», «ці-ці», «та-а» рытмічныя малюнкі і пазнай па іх знаёмыя табе песні «Небыліца», «Кружева осенние»:






Рытм, як ключык, «адкрыў» табе назвы песень.



Чытаць рытмічныя малюнкі можна з дапамогай жэстаў, якія гучаць: воплескаў, плескачоў, пстрыканняў, тупання.

Выканай наступны рытмічны запіс:




Штыль уверх ♩♪ выконвае правая рука, нага.
Штыль уніз выконвае левая рука, нага.

З дапамогай жэстаў, якія гучаць, можна акампаніраваць спевам.

Падбяры жэсты і праспявай песеньку:



# Разные ребята

Д. Кабалеўскі

Не спеша








Оживлённо




Якімі працягласцямі нот запісаны песенькі пра спакойных рабят і якімі — пра непаседаў? Чаму?

# Пешки — крепкие орешки

Словы В. Кручкова Музыка Г. Струвэ




1. Король упал, а это значит:
   Сражаться дальше смысла нет и сил.
   И королева горько плачет,
   И гриву конь понуро опустил.

Припев:

Пешки, пешки, что же скажут пешки?
Каждая пешка знает свою роль.
Если пешки — крепкие орешки,
Непобедим наш шахматный король.

2. Опять «е-два» на «е-четыре»,
Всегда вперёд веди войска свои.
Нас ждут бои в суровом мире,
И надо нам выигрывать бои.
Припев.



3. У нас в боях растёт отвага,
Мы учимся науке побеждать,
Всегда вперёд, назад ни шагу,
Ведь пешки не умеют отступать.
Припев.





Адплясквай рытм песні на рытмасклады. Рытм ♩. ♪ чытай «таі-ці», а рытм ♪. 𝅘𝅥𝅯 — «тэй-ры».



Калі ля ноты стаіць кропка ♩. ♪ ці ♪. 𝅘𝅥𝅯, такі рытм называецца **пункцірным.** Ён надае музыцы пругкасць і вастрыню.

## Крокодил и Чебурашка

І. Арсееў

Протяжно, певуче






Изящно, певуче




Выконвай рытмічны малюнак кожнай папеўкі воплескамі і прагаворвай рытмасклады.

Параўнай рытм папевак. Якую з іх ты аднясеш да песні, а якую да вальса?




Які характар надаў мелодыі гэты рытм?






Вызначы па рытму, што гучыць: песня, танец або марш.
Спявай папеўкі ў характары музыкі.



Ці пераканаўся ты ў цудоўнай сіле рытму? Ён здольны адну і тую ж мелодыю ператварыць у песню, вальс, польку, марш.

# ПАЎЗА Ў МУЗЫЦЫ



Дружа, ты ўжо сустракаў у нотным запісе вось такія значкі:



Гэта паўзы.

**Паўза** — знак маўчання ў музыцы. Як і працягласці нот, паўзы бываюць доўгія і кароткія:



па – а – а – а
па – а
па
пэ

Вызначы паўзы ў музычных фрагментах і назаві іх рытмаскладамі:

1. 

2. 

# Лявоніха

Беларуская народная песня

Рухава






1. А Лявоніху Лявон палюбіў,
   Лявонісе чаравічкі купіў.
   Лявоніха, душа ласкавая,
   Чаравічкамі палясківала.

2. Ой, Лявоніха, Лявоніха мая,
   Ты такою прыгажуняй не была.
   Як збяромся мы ў свята пагуляць,
   Нам Лявоніхі сваёй не пазнаць.

Паспрабуй танцаваць пад музыку. Якія будуць твае рухі: плаўныя, роўныя або з падскокамі, прытопамі?
Адзначай моцную долю ігрой на бубне ці трохвугольніку.

## Запражыце сівых коней

Беларуская народная песня




1. Запражыце сівых коней
   У вазок шырокі:
   Хоча ехаць верабейка
   Ў госці да сарокі.

2. Як прыехаў верабейка
   Ды шпорамі ляснуў,
   Выскачыла сарочанька:
   — Прашу, калі ласка.



3. — Прашу, прашу, верабейка,
Мяне не цурацца, —
І за стол саджае госця,
Просіць частавацца.

Пра што пяецца ў песні? Знайдзі выразныя фарбы для выканання кожнага куплета.
Выканай песню з музычным акампанементам:




Гэта песня — маленькі спектакль. Разыграй яго з сябрамі.

**Сапраўднае сяброўства лепш за багацце.**

# Мама

Словы
Ю. Энціна

Музыка
Ж. Буржаа, Т. Папа



Припев:
Мама — первое слово,
Главное слово в каждой судьбе.
Мама жизнь подарила,
Мир подарила мне и тебе.

1. Так бывает — ночью бессонною
   Мама потихоньку всплакнёт,
   Как там дочка, как там сынок её —
   Лишь под утро мама уснёт.

Припев.

2. Так бывает — если случится вдруг
   В доме вашем горе-беда,
   Мама — самый лучший, надёжный друг —
   Будет с вами рядом всегда.

Припев.

3. Так бывает — станешь взрослее ты
   И, как птица, ввысь улетишь,
   Кем бы ни был, знай, что для мамы ты —
   Как и прежде, милый малыш.

Припев:
Мама — первое слово,
Главное слово в каждой судьбе.
Мама землю и небо,
Жизнь подарила мне и тебе.

? Пра што расказала табе песня? Якія пачуцці ў цябе яна выклікала? Перадай іх у сваім выкананні.



Маці Божая!
Адзіная для ўсіх,
Свеціцца імя
тваё святое.
Ахінай заўжды
дзяцей сваіх
Усямоцнай шатай
залатою.
Л. Кебіч

Маці Божая Адзігітрыя*
«Неўвядальны Цвет»

* Адзігітрыя — з грэчаскай мовы — пуцяводная.

## Усё пачынаецца з Маці...

У кожнага з нас ёсць матуля,
Якая да сэрца прытуліць
І з рук сваіх цёплых і лёгкіх
У свет неабсяжны, шырокі
Адправіць: «Ляці, птушанятка,
Дай Бог табе долі, дзіцятка!»

Л. Кебіч



А. Кузьміч. «Мадонна»

# Люлі-люлі, цэлы дом спіць

Беларуская народная песня

1. Люлі-люлі, цэлы дом спіць,
   А каток на печы сон сніць.
   Люлі-люлі-люлі.

2. Ціха, мышка, варушыся,
   Бо каточак прытварыўся.
   Люлі-люлі-люлі.

3. Як пайшоў каток на ганак,
   Знайшоў маток абаранак.
   Люлі-люлі-люлі.

4. Таму-сяму прадаваў,
   А Манечцы дарма даў.
   Люлі-люлі-люлі.

5. Скочыў коцік у мякіну,
   А Манечка — у пярыну.
   Люлі-люлі-люлі.



? З якім настроем, пачуццём пяюцца калыханкі? Чаму?
Назаві знаёмыя табе калыханкі. Дзе ты іх чуў? Праспявай адну з іх.

# ЛАД — ЗГОДА, ПАРАДАК, МІР ПАМІЖ ГУКАМІ



Кожны музычны твор мае свой характар, свой **лад**. Ён дапамагае перадаць розныя пачуцці чалавека, яго настрой. Калі музыка гучыць мякка, зацемнена, смутна, яна напісана ў **мінорным** ладзе. А калі весела, светла, цвёрда — у **мажорным**.

## Вясёлая. Сумная

Л. ван Бетховен

Паслухай музыку нямецкага кампазітара Людвіга ван Бетховена «Вясёлая. Сумная».

Вызначы яе лад, настрой. Ці аднолькавы ён на працягу твора?

Як заканчваецца гэты музычны твор: весела ці сумна? Чаму?

# Во сне

Словы Т. Сучковай Музыка А. Маркелава

1. Случалось вам когда-нибудь,
   Как птица, крыльями взмахнуть,
   Вдруг очутиться в вышине
   И побывать в такой стране?

Припев:
Там бегемотики летают,
Слоны, как бабочки, порхают,
Кружатся в воздухе мартышки,
И в облаках танцуют мишки.



2. Как хорошо во сне летать,
   В кругу со звёздами плясать
   И покружиться над Землёй
   С зеркальной бабочкой — Луной.

Припев.

3. Зайчонок машет лапкой мне:
   — Привет летающей стране!
   За ним вдогонку я лечу
   И просыпаться не хочу.

Припев.

Параўнай характар музыкі запева і прыпева. Вызначы іх лад.

# Белочки

Словы  
Л. Някрасавай

Музыка  
З. Левінай

1. — Листики падают, осень пришла.  
Рыжие белочки, как у вас дела?  
— Мы набрали шишек  
Для своих детишек.  
Листьев полное дупло —  
Будет нам зимой тепло.



2. — Листики падают, осень пришла.  
Рыжие белочки, как у вас дела?  
— Насушили ягод,  
Чтоб хватило на год,  
И орехи есть у нас,  
И грибов большой запас.



3. — Листики падают, осень пришла.  
Рыжие белочки, как у вас дела?  
— Будем в шубках новых  
Жить в лесах сосновых.  
Шубки серенькие мы  
Надеваем для зимы.



Які настрой у вавёрак — вясёлы ці сумны? Чаму?
Як музыка перадае дыялог паміж вавёркамі і дзецьмі?
Што адлюстроўвае музычнае суправаджэнне?

**Ранак у лесе**
**Вечар**

В. Салманаў



В. Бялыніцкі-Біруля. «Блакітнай вясной»



В. Вярсоцкі. «Над Свіслаччу цішыня»

Якія пачуцці выклікаюць у цябе гэтыя музычныя творы? Чым яны адрозніваюцца?
Вызначы настрой карцін. Параўнай музычныя фарбы з фарбамі на карцінах.

# Перапёлачка

Беларуская народная песня



1. Наша перапёлка
старэнькая стала.
Ты ж мая, ты ж мая
перапёлачка.
Ты ж мая, ты ж мая
невялічкая.

2. А ў перапёлкі ды ножкі баляць.
Ты ж мая, ты ж мая перапёлачка.
Ты ж мая, ты ж мая невялічкая.

3. А ў перапёлкі ды спінка баліць.
Ты ж мая, ты ж мая перапёлачка.
Ты ж мая, ты ж мая невялічкая.

Якія пачуцці выклікае ў цябе песня? Чаму? Што хацеў беларускі народ выказаць у ёй? Як ты будзеш выконваць песню? Спявай і іграй на трохвугольніку:



# Ляцелі гусёлкі

Беларуская народная песня

Умерана скора




1. Ляцелі гусёлкі
Цераз мой садочак,
Цераз мой садочак.

2. А то не гусёлкі,
То сівы зязюлькі,
То сівы зязюлькі.



3. Ляціце, зязюлькі,
Да маёй матулькі,
Да маёй матулькі.

Які настрой выклікае гэтая песня? Чаму?

# ТЭМП У ЖЫЦЦІ І Ў МУЗЫЦЫ



**Тэмп** — гэта хуткасць руху.



ПАВОЛЬНА

ХУТКА

ВЕЛЬМІ ХУТКА

ВЕЛЬМІ ПАВОЛЬНА







Спалучы малюнкі з адпаведнымі словамі. Прывядзі свае прыклады.

Кожны музычны твор мае сваю хуткасць — свой тэмп. Тэмп можа быць розны: павольны, хуткі, вельмі павольны, вельмі хуткі. У музыцы можа адбывацца паскарэнне і запавольванне тэмпу.

## Драўляны конік

Б. Дварыёнас



Што ты ўяўляў сабе, калі слухаў музыку? Якую ролю адыгрывае тэмп у гэтым музычным творы?
Адлюструй скокі коніка на ксілафоне.

# Карусель

Словы І. Рахілы   Музыка Д. Кабалеўскага




2. А за нами — серый кот,
Носорог пузатый,
Толстокожий бегемот
И верблюд горбатый.

3. Скачут волк и дикобраз,
Белка проскакала…
Покружились сорок раз,
Запевай сначала!



? У якім тэмпе выконваецца песня: павольным, хуткім, умераным, з паскарэннем?

## Попутная песня

Словы Н. Кукальніка Музыка М. Глінкі

Дым столбом кипит, дымится пароход!
Пестрота, разгул, волненье, ожиданье,
нетерпенье!
Веселится и ликует весь народ.
И быстрее, шибче воли поезд мчится
в чистом поле.



М. Самокіш. «Першая чыгунка ў Расіі»



Гэту песню рускі кампазітар Міхаіл Глінка прысвяціў адкрыццю першай чыгункі ў Расіі з Пецярбурга ў Царскае Сяло (цяпер горад Пушкін). Глядзець на цягнікі збіралася шмат людзей.

Пра што расказала музыка «Папутнай песні»? Якім чынам?
Ствары рытмічны «спектакль» пра цягнік. Адлюструй рытмам рух цягніка (упачатку, усярэдзіне, у канцы).

## **Весёлые путешественники**

Словы
С. Міхалкова

Музыка
М. Старакадомскага

1. Мы едем, едем, едем
В далёкие края,
Хорошие соседи,
Счастливые друзья.
Нам весело живётся,
Мы песенку поём,
И в песенке поётся
О том, как мы живём.

Припев: Красота! Красота!
Мы везём с собой кота,
Чижика, собаку,
Петьку-забияку,
Обезьяну, попугая —
Вот компания какая! *2 раза.*

2. Когда живётся дружно,
Что лучше может быть?
И ссориться не нужно,
И можно всех любить.
Ты в дальнюю дорогу
Бери с собой друзей:
Они тебе помогут,
И с ними веселей.
Припев.

3. Мы ехали, мы пели,
И с песенкой смешной
Все вместе, как сумели,
Приехали домой.
Нам солнышко светило,
Нас ветер обвевал,
В пути нескучно было,
И каждый напевал:
Припев.



Стvары з сябрамі невялічкі аркестр. Спявайце і іграйце наступны рытмічны запіс:






Дружа, ты спяваў песні, слухаў музыку, якая гучала ў розным тэмпе.

Як ты думаеш, ці ўздзейнічае тэмп на стварэнне музычнага вобраза?

# ДЫНАМІКА — КРАІНА ГУЧНАСЦІ







Маленькі дружа, гэта чароўныя знакі: ***f*** — **фортэ**, ***p*** — **піяна**. Яны адказваюць за гучнасць музыкі — **дынаміку**. Фортэ азначае гучна, а піяна — ціха. Калі іх скласці, атрымаецца фартэпіяна!



Ціха-ціха над зямлёю
Ночка зорная плыла,
Знак **піяна *(p)*** за сабою
Ціха-ціхенька вяла.
Ранкам велічным і чыстым
Асвяціла сонца бор,
На **тры фортэ *(fff)*** (урачыста)
Заспяваў птушыны хор.

Л. Кебіч



**Рэха ў гарах**

С. Майкапар

Якія гукі могуць аддавацца рэхам у гарах? Уяві сябе мастаком. Паспрабуй намаляваць гэту музыку.

# Игра в слова

Словы А. Барто Музыка Д. Кабалеўскага




Спявай песеньку з рознымі дынамічнымі адценнямі.

## «У пячоры горнага караля»
(з музыкі да драмы
Г. Ібсена «Пер Гюнт»)

Э. Грыг



Нарвежскі кампазітар Эдвард Грыг напісаў музыку да спектакля «Пер Гюнт». Пер Гюнт — галоўны герой. Ён спадарожнічае па свеце і трапляе ў разнастайныя сітуацыі. Аднойчы ён апынуўся у пячоры, дзе жыве горны кароль і яго світа — розныя пачвары.

Верил я,
сходя впервые
В недра мрачные
земные:
Духи тьмы там,
в глубине,
Тайну тайн
откроют мне.

Г. Ібсен



Пра што паведаміла табе музыка? Што здарылася з Перам Гюнтам у пячоры? Назаві сродкі музычнай выразнасці, якія выкарыстаў кампазітар.

Ствары з сябрамі пластычны спектакль.

## Музыкальное эхо

Словы і музыка М. Андрэевай




Спявай песню, гуляючы ў рэха.

# РЭГІСТР — КРАІНА ГУКАЎ: ВЫСОКІХ — СЯРЭДНІХ — НІЗКІХ

## Танец эльфаў

Э. Грыг



Эльфы — маленькія казачныя лясныя чалавечкі з лёгкімі празрыстымі крыльцамі. Яны жывуць у кветачках.






Якімі гукамі па вышыні кампазітар адлюстраваў эльфаў? Чаму?
Выберы словы для вызначэння музыкі: лёгкая, мужная, пырхаючая, вясёлая.
Адлюструй танец эльфаў пластычнымі рухамі.

## Зайчык дражніць медзведзяня

Д. Кабалеўскі





Па якіх прыкметах ты пазнаеш у музыцы зайчыка і медзведзяня?
Перадай пластычнымі рухамі характары музычных персанажаў.

Высокія, сярэднія і нізкія гукі нібы маюць свае домікі — **рэгістры**. Яны могуць быць афарбаваныя ў розныя колеры. У якія колеры афарбаваў бы іх ты? Чаму?

# Песенка-приветствие

Словы
В. Нехарошкінай

Музыка
М. Картушынай




Праспявай мелодыю, называючы ноты. Выканай песеньку разам з сябрамі па ролях.

# Ёжики смеются

Словы
К. Чукоўскага

Музыка
У. Дарохіна






1. У канавки две козявки
   Продают ежам булавки.
   Продают ежам булавки
   Две козявки у канавки.



2. А ежи-то хохотать, хохотать! Ха-ха-ха!
   Всё не могут перестать, перестать: ха-ха-ха!
   «Эх вы, глупые козявки!
   Нам не надобны булавки:
   Мы булавками сами утыканы». Ха-ха-ха!

На якіх гуках у песні смяюцца вожыкі — высокіх ці нізкіх?

## Тры цуды

(з оперы «Казка пра цара Салтана»)

М. Рымскі-Корсакаў



Мікалай Рымскі-Корсакаў — рускі кампазітар. Музычнымі гукамі ён стварыў дзівосныя вобразы. Опера «Казка пра цара Салтана» напісана паводле казкі А. Пушкіна.

Есть там белка, что при всех
Золотой грызёт орех,
Изумрудец вынимает,
А скорлупку собирает,
Кучки равные кладёт
И с присвисточкой поёт
При честном при всём народе:
«Во саду ли, в огороде».



Прачытай выразна тэкст. Уяві сябе кампазітарам. Якімі гукамі па вышыні ты будзеш адлюстроўваць вавёрку? Чаму? На якім інструменце, на тваю думку, павінна гучаць мелодыя вавёркі?

Паслухай музыку і вызначы яе характар (гуллівая, сумная, пяшчотная, гарэзлівая, радасная, рашучая).

Море вздуется бурливо,
Закипит, подымет вой,
Хлынет на берег пустой,
Разольётся в шумном беге,
И очутятся на бреге,
В чешуе, как жар горя,
Тридцать три богатыря.



Чаму кампазітар звярнуўся да марша, каб паказаць волатаў?
Якія інструменты аркестра найбольш выразна перадаюць іх веліч і моц?



Там царевна есть,
Что не можно глаз отвесть.
Днём свет Божий затмевает,
Ночью землю освещает —
Месяц под косой блестит,
А во лбу звезда горит.

Перадай характар музыкі з дапамогай выразных рухаў.
Якія інструменты ствараюць гэты персанаж?
Якую ролю адыгрываюць рэгістры ў музыцы?

# ТЭМБР — АФАРБОЎКА МУЗЫЧНЫХ ГУКАЎ



Кожны музычны інструмент, чалавечы голас мае свой **тэмбр** — афарбоўку. Дзякуючы тэмбру, ты адрозніваеш галасы сваіх родных і сяброў ад галасоў незнаёмых табе людзей, адзін музычны інструмент ад другога.

## Сімфанічная казка «Пеця і воўк»

С. Пракоф'еў



Струнны квартэт











Флейта

Габой









Кларнет

Фагот





Тры валторны



Літаўры





Вялікі барабан

Як інструменты дапамаглі кампазітару «намаляваць» герояў гэтай сімфанічнай казкі?

## Музыканты

Словы Э. Агняцвет        Музыка А. Рэмізоўскай

1. Міхасёк гасцей збірае,
   Ўся кампанія ідзе:
   Кот на скрыпачцы іграе,
   А сабака на дудзе.

Прыпеў: Ду-ду-ду, цір-лі-лі,
Ду-ду-ду-ду, цір-лі-лі. } *2 разы*

2. Запявае вожык басам,
   Б'е камар у барабан,
   Певень выскачыў тым часам,
   Ухапіўся за баян.

Прыпеў:
Бум-бум-бум, рыпы-рып,
Бум-бум-бум-бум, рыпы-рып. } *2 разы*



3. З гусаком карова ў пары
Выступаюць спакваля,
Міхасёк паплыў на хмары,
Закружылася зямля.

Прыпеў:
Ля-ля-ля, ля-ля-ля,
Ля-ля-ля-ля, ля-ля-ля. } *2 разы*

4. Міхасёк гасцей збірае,
Ўся кампанія ідзе:
Кот на скрыпачцы іграе,
А сабака на дудзе.

Прыпеў:
Ду-ду-ду, цір-лі-лі,
ду-ду-ду-ду, цір-лі-лі. } *2 разы*

**?** З якімі музычнымі «кітамі» ты сустрэўся ў гэтай песні?
Спявай песню і адлюстроўвай рухамі яе змест.

## Як спявае флейта



Гаворàць, цудаў не бывае. Што вы! Вы будзеце так гаварыць толькі да той пары, пакуль не пачуеце Залатой Флейты. А хто Флейту пачуе, з тым здарыцца цуд.

Яе дрэвы чуюць і таму растуць. Яе сонца чуе і таму ўсходзіць. І заходзіць, таму што Флейта загадвае... Дык, і мы самі на свет з'яўляемся, калі яна пакліча. Калі душа нарадзілася, значыць пачула Флейту. Пачула, а потым забыла. А калі зноў пачуе, то і ўбачыць цуд. Хоць яна ўбачыць гэты самы свет і больш нічога. Але хіба цуд — гэта што-небудзь іншае, а не гэты самы свет?

З. Міркіна. З казкі «Пра цуд, або Залатая Флейта»

Які голас у флейты? Што можна перадаць у музыцы з дапамогай флейты?

Птушкай песня
ўзнялася —
Гэта флейта
залілася.
Як падобна я
На самога
Салаўя.

В. Лукша



Э. Манэ. «Флейтыст»

## Слухаючы скрыпку



Чамусьці я думаю сёння пра скрыпку. Яна гучыць у маім сэрцы, настойлівая, працяжная, бясконца ўладарная, нібы шаўковая тканіна кваяцістай хусткі, на якой узор то ўспыхвае, то знікае, то зноў з'яўляецца і застывае, здаецца назаўсёды.

Ю. Куранаў. З апавядання «Слухаючы скрыпку»

Шчыра вам,
Браткі,
Кажу,
Сваёй славай
Даражу.
Як жа мне
Не ганарыцца —
Скрыпка —
Музыкі царыца!
В. Лукша



І. Цыбульнік.
«Юны скрыпач»

Ці падабаецца табе гучанне скрыпкі? Чым? Што ты адчуваеш, калі слухаеш яе? Пакажы, як іграюць на скрыпцы.

## Калі цябе любяць, радасна і сумаваць.

### Вясковыя музыкі

В. Помазаў



Які музычны «кіт» пераважае ў гэтым творы?
Назаві музычныя інструменты, якія ты пачуў.
Пры паўторным праслухоўванні імітуй ігру на названых інструментах падчас іх гучання.

## Ваенны марш

(з музычных ілюстрацый
да аповесці А. Пушкіна «Мяцеліца»)

Г. Свірыдаў

Які настрой ты адчуў у музыцы? Якія інструменты пачуў?



Духавы аркестр Гродзенскага дзяржаўнага музычнага каледжа

**Духавы аркестр** уключае ў сабе духавыя (медныя, драўляныя) і ударныя музычныя інструменты. Таму яго гучанне вельмі яркае і магутнае. Такі аркестр звычайна суправаджае маршы, урачыстыя шэсці на плошчах, у парках.

# Форель

Словы Д. Шубарта Музыка Ф. Шуберта
Пераклад У. Кастамарава

1. Лучи так ярко грели, вода ясна, тепла…
   Причудницы форели в ней мчатся,
   как стрела.
   Я сел на берег зыбкий и в сладком забытье
   Следил за резвой рыбкой, купавшейся
   в ручье.



Пра што спяваецца ў песні? Якія словы песні адпавядаюць малюнку?
Услухайся ўважліва ў акампанемент. Што ён адлюстроўвае?

Звярні ўвагу на афарбоўку голасу спевака. Гэта **тэнар** — высокі мужчынскі голас.

## Сурок

Словы
Н. Райскага

Музыка
Л. ван Бетховена

1. По разным странам я бродил,
И мой сурок со мною.
И сыт всегда, везде я был,
И мой сурок со мною.



Ж. А. Вато.
«Саваяр
з сурком»

Голас спевака, які выконвае гэту песню, называецца **бас**.

Якія пачуцці выклікае ў цябе гэта песня? Чаму? Пра каго расказваецца ў ёй? Параўнай настрой песні і карціны. Чым адрозніваецца бас ад тэнару?

## Прытча

Адзін мудры чалавек спытаў свайго сына, ці спрабаваў ён калі-небудзь пачуць тое, што нельга пачуць, убачыць тое, што нельга ўбачыць, пазнаць тое, што нельга пазнаць. Потым ён папрасіў хлопчыка прынесці яму плод інжыру.



— Вось адзін, бацька.
— Разламай яго.
— Разламаў, бацька.
— Што ты бачыш унутры?
— Некалькі малюсенькіх зярнятак, бацька.
— Разламай адно.
— Разламаў, бацька.
— Што ты бачыш там?
— Нічога, бацька.
— Мой сын, гэта нічога, якое ты не можаш убачыць, і ёсць сама сутнасць вялізнага інжырнага дрэва, яго Душа...



У музыцы таксама ёсць Душа.

Успомні, у якіх творах ты чуў радасць, смутак, пяшчоту, трывогу, рашучасць, весялосць.

# Игра в гостей

Словы І. Рахілы Музыка Д. Кабалеўскага

— Здрасте, здрасте!
Мы вас ждём.
— Промочило нас дождём.
— Ожидали мы гостей.
— Мы промокли до костей.
— Где ж ваш зонтик?
— Потеряли.
— Где калоши?
— Кот унёс.
— Где перчатки?
— Скушал пёс.
— Это, гости, не беда,
Заезжайте в ворота,
Поднимайтесь на порог,
К нам на яблочный пирог!
— К вам на яблочный пирог!



Разыграй песню з сябрамі па ролях. З якім настроем будуць спяваць «гаспадары» і з якім — «госці»?

# Куркі

Словы А. Вольскага — Музыка Л. Шлег

Умерана




Прыпеў: — Куркі! Куркі!
— Ко-ка! Ко-ка!
Ко-ка! Ко-ка! Ко!

2. — А загінуць куркі ўсе,
Хто яечкі нам знясе?
Куркі кажуць:
— Ко-ка! Ко-ка!
Не адыдземся далёка.

? Знайдзі фарбы голасу, каб перадаць змест песні найбольш выразна.

# Фея Музыка




Уважліва разгледзь малюнак. Якая роля ў музыцы належыць кожнаму сродку музычнай выразнасці?

## Белы абрус усё поле пакрыў.



М. Апіёк. «Яблыня зімой»

Ствары гукавую карціну зімы. З дапамогай музычных інструментаў адлюструй:

Танец сняжынак  

Песню мяцеліцы  

Размову льдзінак  

**Калі не будзе зімою бела —**
**не будзе ўлетку зелена.**

## Зимушка-зима

Словы Т. Сучковай　　　　Музыка А. Маркелава

1. Разгулялась зимушка-зима.
На широкой улице дома
Утонули в облачке метели,
И деревья мигом побелели.

Припев: Белоснежная зима, зима,
Ты построй нам терема, терема.
Белый ветер, прилети,
Нам сугробы намети.
Горы снега да повыше намети!



2. Танцевала тучка над землёй,
Прилетела птицею большой.
Полетели пёрышки-пушинки,
Закружились белые снежинки.
Припев.

3. Птица-туча сильною была,
От пушинок улица бела.
Выбегайте-ка, друзья-подружки,
Из пушинок будем шить подушки.
Припев.

Што ты адчуваеш, калі бачыш прыгожае зімняе ўбранне ў прыродзе?
Якія сродкі музычнай выразнасці дапамагаюць раскрыць вобраз зімы?
Што «малюе» акампанемент?



Каляды — гэта народнае свята. На Ражаство Хрыстова калядоўшчыкі ходзяць па хатах і спяваюць песні. У іх зычаць гаспадарам дабрабыту і шчасця. Гэтыя песні называюцца калядкамі.

## Добры вечар

Беларуская народная песня

1. Добры вечар усім!
Шчасліва навіна:
Нарадзіла Дзева
Ды Божага Сына.
Прыпеў: Слава Богу, дайма
Весела спявайма,
Святы вечар на зямлі.

2. З Ражаством Хрыстовым
Мы вас паздраўляем
І разам з вамі
Хрыста праслаўляем.
Прыпеў.

3. Добры вечар, людзі,
Хай вам радасць будзе.
Шчыра вас вітаем
І шчасця жадаем.
Прыпеў.



# Каляда, каляда, дай, баба, пірага!

Беларуская народная песня




Каляда, каляда,
Дай, баба, пірага!
А калі не дасі,
Вазьму вала за рага,
Выведу за парог,
Выкручу правы рог,
Буду ў рог трубіці,
Каб скупых расшчодрыці.
Дай, баба, пірага!



? Разыграй з сябрамі песню або выканай яе з суправаджэннем музычных інструментаў. Падбяры іх самастойна.

## Песенька Дзеда-барадзеда

Словы А. Вольскага Музыка Л. Захлеўнага

1. Я хаджу па белым свеце
І гляджу, як вы жывеце.
Калі трэба — памагу,
Бо я ўсё рабіць магу.

Прыпеў: Хто я? Дзед-барадзед,
Абышоў белы свет.
А цяпер у ціхі час
Завітаў да вас.



2. З вамі побач буду ўсюды,
Трэба цуды — зробім цуды.
Трэба казка — раз, два, тры —
Вось і казка вам, сябры!
Прыпеў.

3. Я хаджу па белым свеце —
Ваш найлепшы сябар, дзеці,
І вядома нават мне,
Што вы бачыце ўва сне.
Прыпеў.

Назаві сродкі музычнай выразнасці, якія дапамаглі стварыць вобраз Дзеда-барадзеда.

Выканай песню ў характары.

Прыдумай акампанемент да прыпеву.

## Пытанні для паўтарэння

**1.** Якое значэнне мае мелодыя ў музыцы?

**2.** Што такое гукарад? Успомні песні, у якіх ён гучыць.

**3.** Чаму рытм называюць «залатым ключыкам»?

**4.** Нагадай лады ў музыцы. Прывядзі прыклады.

**5.** Што такое тэмп? У якіх знаёмых табе творах ён адыгрывае важную ролю?

**6.** Якія фарбы ты адбярэш для адлюстравання высокага і нізкага рэгістраў? Чаму? Назаві музычныя творы, дзе сустракаюцца розныя рэгістры.

**7.** Назаві дынамічныя адценні, з якімі ты пазнаёміўся ў гэтым паўгоддзі. Якімі ты адлюстраваў бы ўдары грому, шум дажджу, шапаценне лісцікаў на дрэве?

**8.** У якім музычным творы кожны персанаж характарызуецца сваім тэмбрам (музычным інструментам)?

**9.** Якія тэмбры сустракаюцца ў музыцы? Прывядзі прыклады.

# ПАДАРОЖЖА Ў МУЗЫЧНЫЯ КРАІНЫ — ОПЕРУ, БАЛЕТ, СІМФОНІЮ, КАНЦЭРТ



Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь





Сцэны з оперы «Яўген Анегін» і балета «Лебядзінае возера»



Беларуская дзяржаўная філармонія



Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр
Рэспублікі Беларусь

? Угледзься ў гэтыя фотаздымкі. Куды запрашаюць нас песня, танец, марш?

# ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ ОПЕРА



Музыка — гэта жыццё. Яна здольная «зазірнуць» ва ўсе таямнічыя куточкі чалавечых пачуццяў. Стварае радасць, весялосць, смутак, журбу. Нават можа лячыць чалавека, уздзейнічаць на жывёл. Асаблівая роля адводзіцца оперы. **Опера — музычны спектакль, дзе дзеючыя асобы не гавораць, а спяваюць у суправаджэнні аркестра**. Удзельнікамі оперы з'яўляюцца салісты, хор, вакальныя ансамблі, аркестр, танцоры.

## Заключны хор

(з оперы «Муха-Цакатуха»)

М. Красеў



Бом! Бом! Бом! Бом!
Пляшет Муха с Комаром.
А за нею Клоп, Клоп
Сапогами топ, топ!
Стрекоза-щеголиха
С Муравьём танцует лихо.
Сам усатый Таракан
Громко бьёт в барабан!
Та-ра-ра! Та-ра-ра!
Заплясала мошкара.
Веселится народ,
Пляшет, песни поёт.
Хвалит смелого, лихого,
Удалого Комара. } *2 раза*



Бом! Бом! Бом! Бом!
Пляшет Муха с Комаром.
А за нею Клоп, Клоп
Сапогами топ, топ!
Пляшет Бабочка-шалунья,
Машет крылышком игрунья.
Пчёлка с Блошкой обнялись,
Словно ветер, понеслись.
Нынче Муха-цокотуха —
Именинница! } *2 раза*

Як, на тваю думку, павінен гучаць гэты хор: радасна, сумна, бадзёра, жартоўна, урачыста? Чаму?
Падбяры музычныя інструменты і выкарыстай іх падчас спеваў.

## Опера «Воўк і сямёра казлянят» (фрагменты)

М. Каваль



Семеро, семеро, семеро козлят
Весело, весело, весело шумят.
Весело Всезнайке, весело Бодайке,
Весело Топтушке, весело Болтушке,
Весело Мазилке, весело Дразнилке,
Ну, давайте, братцы, прыгать и бодаться!
Прыгать и бодаться!



❓ Назаві адпаведным словам песню Мамы-казы (прыпеўка, калыханка, гімн).

❗ Голас, які выконвае гэту калыханку, называецца **сапрана.**



Вот Всезнайка и Топтушка
Говорят, что я — болтушка,
Говорят, что много вру,
А я правду говорю.

В темпе оживлённого вальса



Я на венике верхом
Объезжаю всё кругом.
Ты беги, Мазилка, вслед.
Ну, догонишь или нет?





Спявай мелодыі яскрава і гулліва. Выкарыстоўвай выразныя рухі для перадачы вобразаў.

Упрямо




Знак > **(акцэнт)** абазначае націск.

Як у мелодыі перададзены задзірысты характар Бадайкі?
Спявай мелодыю і паказвай рукой у паветры яе скачкі. Падкрэслівай акцэнты.






Пра што расказала табе мелодыя Малыша? Як?
Спявай і маршыруй у адпаведнасці з характарам музыкі.



Выканай з сябрамі «Ваяўнічы марш». Размяркуйце ролі паміж сабой. Прыдумайце рухі, якія будуць выконваць пад музыку Малыш і іншыя казляняты.




Які настрой выклікае гэта песня?
Назаві оперу і ўсіх яе герояў. Якія ў іх характары і як гэта перададзена ў музыцы?
Якія музычныя «кіты» сустракаюцца ў гэтай оперы?

## Саўка ды Грышка

Беларуская народная песня

1. Саўка ды Грышка ладзілі дуду,
Павесяліцца ды прагнаць нуду.
Ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду,
Ды прагнаць нуду. } *2 разы*



2. Як разышліся музыкі, гуга!
Згінула гора, згінула туга.
Гу-га-га-га, гу-га-га-га,
Згінула туга. } *2 разы*

3. Дзядок старэнькі, ёмкі ўзяўшы скрут,
Кіем на дзверы паказаў ім тут.
Ту-ту-ту-ту, ту-ту-ту-ту,
Паказаў ім тут. } *2 разы*

4. — Вы сабе дуйце сваё го-ца-ца,
Толькі не страшце малога хлапца.
Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, | *2 разы*
Малога хлапца. |

Разыграй песню з сябрамі. Выразна перадавай голасам і рухамі змест кожнага куплета.

Падбяры музычныя інструменты для акампанементу:




## Дзіцячы танец і хор

(з оперы «Марынка»)

Р. Пукст

Як песня «Саўка ды Грышка» гучыць у оперы «Марынка»? Ці змянілася яна? Як? Хто выконвае яе?

## Піянерская полька

(з оперы «Марынка»)

Р. Пукст

Перадай у рухах настрой, выкліканы музыкай.
Ствары з сябрамі невялічкі аркестр. Акампаніруйце на інструментах:




## Марш Чарнамора

(з оперы «Руслан і Людміла»)

М. Глінка

Безмолвно, гордо выступая,
Нагими саблями сверкая,
Арапов длинный ряд идёт
Попарно, чинно,
сколь возможно,
И на подушках осторожно
Седую бороду несёт;
И входит с важностью
за нею,
Подъяв величественно шею,
Горбатый карлик
из дверей.
Его-то голове обритой,
Высоким колпаком
покрытой,
Принадлежала борода.

А. Пушкін



Які характар гэтага марша — гераічны, казачны, чароўны? Чым ён адрозніваецца ад вядомых табе маршаў — марша казлянят, марша драўляных салдацікаў? Падбяры выразныя рухі, якія найбольш адпавядаюць характару Чарнамора.

## Уж как по мосту, мосточку

Руская народная песня



1. Уж как по́ мосту, мосточку,
   По калиновым досочкам.
   Вайну, вайну, вайну, вайну,
   По калиновым досочкам.



2. Тут и шёл-прошёл детина,
   Словно ягода-малина.
   Вайну, вайну, вайну, вайну,
   Словно ягода-малина.

3. На плече несёт дубинку,
   Под полой несёт волынку.
   Вайну, вайну, вайну, вайну,
   Под полой несёт волынку.

Выконвай песню з разнастайнымі рухамі ў адпаведнасці са зместам.

## Хор сялян

(з оперы «Яўген Анегін»)

П. Чайкоўскі



Паслухай хор з оперы. Якую песню ён нагадаў табе?
Паспрабуй параўнаць выкананне песні ў класе і хора з оперы. Чым яны адрозніваюцца?

Хор, у якім гучаць мужчынскія і жаночыя галасы, называецца **змешаным.**

# Козлік

Аўстрыйская народная песня






1. Жыў у бабуленькі шэранькі козлік*.
   Вось як, вось як, шэранькі козлік.
2. Бабуля козліка дужа любіла.
   Вось як, вось як, дужа любіла.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

3. Ўздумалась козліку ў лес пагуляці.
Вось як, вось як, ў лес пагуляці.

4. Козліка ў лесе тым воўкі схапілі.
Вось як, вось як, воўкі схапілі.

5. Кінулі бабцы тэй рожкі ды ножкі.
Вось як, вось як, рожкі ды ножкі.

6. Цешся, бабуленька, хоць гэтым трошкі.
Вось як, вось як, хоць гэтым трошкі.

Выконваючы песню, выразна перадай змест кожнага куплета.
Інсцэніруй песню з сябрамі.

## Каваціна Фігара

(з оперы «Вяселле Фігара»)

В. А. Моцарт



Опера «Вяселле Фігара» — адна з найбольш вядомых опер у свеце. Фігара — вясёлы і знаходлівы слуга багатага графа.

Голас спевака, які выконвае ролю Фігара, называецца **барытонам.**



Если захочет барин попрыгать,
Если захочет барин попрыгать,
Я подыграю гитарой ему,
Я подыграю гитарой ему, да, —
Пусть пляшет он, да,
Пусть пляшет он!

Які настрой выклікае ў цябе каваціна Фігара? Чаму?
Якія «кіты» сустракаюцца ў краіне Опера? Каторы з іх з'яўляецца галоўным?

**Каваціна** — лірычная песня ў оперы.

# ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ БАЛЕТ

БАЛЕТ
БАЛЕТМАЙСТАР
АРКЕСТР
БАЛЕРЫНА
ТАНЦОЎШЧЫК
КАРДЭБАЛЕТ





Ці ведаеш ты, што азначаюць гэтыя словы?

**Балет** — гэта музычны спектакль, дзе змест перадаецца з дапамогай музыкі і танца. Пастаноўшчыкам балета з'яўляецца балетмайстар. Яго ўдзельнікі — балерыны, танцоўшчыкі, кардэбалет (група танцораў) і аркестр.

## Балет «Маленькі прынц»

Я. Глебаў



Балет «Маленькі прынц» напісаны на тэму казкі французскага пісьменніка Антуана дэ Сэнт-Экзюпеpы. У ім паказаны дабрыня і шчырасць чалавечых пачуццяў і адносін.

У фрагменце з музыкі балета расказваецца пра незвычайную сустрэчу Маленькага прынца і Ружы.







## Адажыа

(з балета «Маленькі прынц»)

Я. Глебаў

Мерна, напеўна



Што нагадвае табе мелодыя адажыа — песню, танец ці марш?
Уяві сябе танцоўшчыкам. Перадай свае пачуцці ў рухах.



**Адажыа** — павольны, лірычны танец галоўных герояў.

## Прынц і Ружа

Словы
Л. Дранько-Майсюка

Музыка
М. Сацуры

1. Кінь каменьчык у зорную сцюжу —
Крышталёвы пачуецца звон.
Пра Маленькага прынца і Ружу
Нагадае адразу нам ён.

Прыпеў: Баю-бай, крышталёвыя краскі
Узыходзяць у сіняй журбе.
Баю-бай гэтай вечнае казкі.
Прынц і Ружа прысняцца табе.

2. Тую казку не раз мы чыталі,
І здавалася нам кожны раз:
Прынц і Ружа для нас танцавалі
І спявалі таксама для нас.
Прыпеў.



3. Не палохайся доўгае сцюжы
І ніякай не бойся бяды:
Прынц Маленькі і белая Ружа
Будуць побач з табою заўжды.
Прыпеў.

З якім настроем спяваецца гэта песня? Вызначы яе музычную мову (мелодыю, рытм, тэмп, дынаміку).

Адлюструй характар мелодыі выразнымі рухамі рук.

## Марш

(з балета «Шчаўкунок»)

П. Чайкоўскі



Балет «Шчаўкунок» напісаны паводле казкі нямецкага пісьменніка Эрнста Тэадора Гофмана «Шчаўкунок і Мышыны кароль».

Пад Новы год да дзяўчынкі Марыі прыходзяць сябры. Яны з радасцю і захапленнем глядзяць на ўпрыгожаную елку і водзяць вакол яе карагоды.



Знайдзі патрэбныя словы для характарыстыкі музыкі марша.
Адстукай (кулачком, пальчыкамі ці алоўкам па стале) пульс марша.



Ці адчуў ты, што марш у балеце гучыць лёгка, нібы танец? Гэтым ён адрозніваецца ад марша з оперы.

# Мульцікі-пульцікі

Словы і музыка Я. Жабко

1. Што цікавіць ўсіх дзяцей, вельмі захапляе?
   Гэта мульцік пра мышэй так іх забаўляе.
   Ад яго ўсім малышам цяжка адарвацца.
   Як тут ціхенька сядзець, як тут не смяяцца?

Прыпеў: Мульцікі-пульцікі…
Гэта радасць для дзяцей.
Мульцікі-пульцікі…
Да экранаў ўсе хутчэй!
Мульцікі-пульцікі...
Кожны дзень я іх гляджу.
Сябра добрага сабе я і тут знайду.



2. Працавіты мурашок хатачку будуе,
   Прыгажуня страказа лета ўсё танцуе.
   Зло адрозніць ад дабра мульцік дапаможа.
   Не, без мульцікаў пражыць з нас ніхто
   не зможа!

Прыпеў.





Успомні любімыя песні з мульцікаў. Праспявай іх.

## Неапалітанскі танец

(з балета «Лебядзінае возера»)

П. Чайкоўскі

На баль да прынца Зігфрыда прыехалі госці з розных краін. Яны вітаюць прынца.



Якія інструменты выконваюць «Неапалітанскі танец»?

Назаві інструмент, які саліруе ў аркестры. Ці мяняецца характар музыкі на працягу ўсяго танца? Як?

Уяві сябе музыкантам — трубачом. Уважліва слухай музыку і ў адпаведны момант імітуй ігру на трубе.

Труба на сонцы
Золатам зззяе.
Маршы і танцы
Бадзёра іграе.



**Вальс**

(з балета «Спячая прыгажуня»)

П. Чайкоўскі



Казку «Спячая прыгажуня» напісаў французскі пісьменнік Шарль Перо. На сюжэт гэтай казкі рускі кампазітар Пётр Чайкоўскі стварыў балет.

Дзеянне адбываецца ў казачным царстве караля Фларэстана. У дзень паўналецця яго дачкі, прынцэсы Аўроры, у замку спраўляецца баль.

Уяві сябе госцем балю. Услухайся ў музыку вальса. Што ты адчуваеш? Пластычнымі рухамі перадай настрой музыкі.

### Вальс. Поўнач

(з балета «Папялушка»)

С. Пракоф’еў



Ты, напэўна, ведаеш казку Шарля Перо пра бедную Папялушку. Добрая фея дапамагла Папялушцы трапіць на баль у каралеўскі палац.

У якім танцы кружацца Папялушка і прынц? Пра што расказала музыка гэтага танца?



Успомні, што здарылася з Папялушкай далей. Што прымусіла яе збегчы з балю? Як пра гэта расказвае музыка? Якая яна (сумная, радасная, узрушаная, напружаная)?

## Фокус. Танец лялек

(з першай карціны балета «Пятрушка»)

І. Стравінскі




З маленькага тэатрыка выходзіць фокуснік. Яго паяўленне абвяшчаюць барабаншчыкі. Фокуснік іграе на флейце. Заслона тэатрыка раскрываецца, і перад гледачамі з'яўляюцца тры лялькі: Пятрушка, Балерына і Арап. Фокуснік ажыўляе іх. Лялькі дружна пускаюцца ў скокі.

Як гучыць музыка, калі паяўляецца фокуснік (таямніча, чароўна, бадзёра)? Ахарактарызуй музыку танца лялек (вясёлая, механічная, сумная). Слухай і перадавай у пластыцы рухі дзеючых асоб.

## Люты — шчодры на сіні мароз…




Б. Кустодзіеў. «Масленіца»



На гэтай карціне паказана народнае гулянне на Масленіцу.

Наша масленіца гадавая,
Яна госцейка дарагая.
Яна пешаю к нам не ходзіць —
Усё на коніках раз’язджае.
Штобы конікі былі вараныя,
Штобы слугі былі маладыя.

# Чаму табе, Масленка, ды не сем нядзель?

Беларуская народная песня

Спакойна






1. Чаму табе, Масленка,
Ды не сем нядзель?
Гу, та-та, гу, лё-ля.

2. А што табе, Масленка,
Адна нядзелька?
Гу, та-та, гу, лё-ля.

3. Адна нядзелька,
І тая караценька.
Гу, та-та, гу, лё-ля.



Ты, напэўна, заўважыў, што ў народных песнях сустракаюцца незвычайныя словы. Напрыклад: гу-га-га, вайну-вайну, люлі-люлі і іншыя.

Знайдзі падобныя словы ў гэтай песні. Што яны надаюць твору?

# Бураціна. Карабас

(з балета «Залаты ключык»)

А. Хадоска

Успомні казку пра Бураціна. Якія падзеі ў ёй адбываюцца? На сюжэт гэтай казкі беларускі кампазітар Алег Хадоска стварыў балет.



Пазнай дзеючыя асобы. Адзін, нібы пачвара, злосна ляскае зубамі і моцна тупае нагамі. Другі — гарэза, гулліва скача, бегае, насміхаецца.

Якому з герояў найбольш падыходзяць радкі з верша К. Крапівы:

І ў свой прабег
Раджае смех,
Здаровы смех?

«Намалюй» герояў казкі пластычнымі рухамі.

Якія інструменты дапамаглі перадаць іх характар?

Якія музычныя «кіты» сустракаюцца ў балеце? Які з іх з'яўляецца галоўным?

## Бу-ра-ти-но!

(з тэлефільма «Прыгоды Бураціна»)

Словы Ю. Энціна — Музыка А. Рыбнікава

1. Кто доброй сказкой входит в дом?
Кто с детства каждому знаком?
Кто не учёный, не поэт,
А покорил весь белый свет,
Кого повсюду узнают,
Скажите, как его зовут?
Бу! Ра! Ти! Но!
Бу-ра-ти-но! Бу-ра-ти-но!

2. На голове его колпак,
Но околпачен будет враг.
Злодеям он покажет нос
И рассмешит друзей до слёз,
Он очень скоро будет тут,
Скажите, как его зовут?
Бу! Ра! Ти! Но!
Бу-ра-ти-но! Бу-ра-ти-но!



3. Он окружён людской молвой,
Он не игрушка — он живой!
В его руках от счастья ключ,
И потому он так везуч,
Все песенки о нём поют,
Скажите, как его зовут?
Бу! Ра! Ти! Но!
Бу-ра-ти-но! Бу-ра-ти-но!



Як музыка перадае характар Бураціна? Падумай, чаму пасля першых дзвюх фраз у кожным куплеце гучыць мелодыя без слоў?



Дружа, ты ўжо сустракаўся з аркестрам. Аркестры бываюць розныя: сімфанічныя, духавыя, эстрадныя, джазавыя, народных інструментаў. Самым вялікім з'яўляецца

сімфанічны аркестр. У яго ўваходзяць струнныя, духавыя, ударныя музычныя інструменты. Кіруе аркестрам дырыжор.

! Сімфанічны аркестр звычайна выконвае буйныя музычныя творы, напрыклад, **сімфонію**. У ёй некалькі частак.



Размяшчэнне музычных інструментаў у сімфанічным аркестры



Паглядзі, якое ззянне навокал! З нябёс струменіцца святло. Ад зямлі ідзе духмяны пах. Пяюць птушкі. Іх розныя па тэмбру і вышыні галасы зліваюцца ў сугучча. Гэта — сімфонія вясны.

## Дзіцячая сімфонія

(I частка)

І. Гайдн

Што музыка выказвае і адлюстроўвае?
Якія ты пачуў музычныя інструменты?
Пра што расказваюць скрыпкі?
Як бы ты намаляваў гэту музыку?



Стаяў цудоўны дзень. Над галавой — блакітнае неба, пяшчотнае сонейка. На дрэвах кукавалі зязюлькі, свісталі шпакі, залівaліся салоўкі, шчабяталі іншыя птушачкі. На лясной палянцы, дзе красаваліся розныя кветкі, сабраліся дарослыя і дзеці. У іх руках былі гліняныя свістулькі, трашчоткі, дудкі, трохвугольнікі, барабанчыкі. Яны бегалі, скакалі, перакульваліся і спаборнічалі з хорам птушак.

# Наш оркестр

Нямецкая народная песня

Рускі тэкст
Я. Серпіна

Апрацоўка
Л. Абелян

1. Листает ветер наши ноты,
Чиндераса, чиндераса,
Ту-ту-ту!
Звучат кларнеты и фаготы,
Чиндераса, чиндераса, ту!
На свете нету краше
Весёлой песни нашей,
Звучат кларнеты и фаготы,
Чиндераса, чиндераса,
Ту-ту-ту!



2. А вот запели дружно скрипки,
Чиндераса, чиндераса,
Ля-ля-ля!
Смычки у нас легки и гибки,
Чиндераса, чиндераса, ля!
На свете нету краше
Весёлой песни нашей,
Смычки у нас легки и гибки,
Чиндераса, чиндераса,
Ля-ля-ля!

3. Теперь упруго сжаты губы,
Чиндераса, чиндераса,
Тра-та-та!
Гремят послушно наши трубы,
Чиндераса, чиндераса, тра!
На свете нету краше
Весёлой песни нашей,
Так пусть гремят под солнцем трубы,
Чиндераса, чиндераса,
Тра-та-та!



4. Упрямо, дробно и чеканно,
Чиндераса, чиндераса,
Бум-бум-бум!
Забили оба барабана,
Чиндераса, чиндераса, бум!
На свете нету краше
Весёлой песни нашей,
Забили оба барабана,
Чиндераса, чиндераса,
Бум-бум-бум!

? Якія нязвычныя словы сустракаюцца ў песні? Што яны адлюстроўваюць?
Спявай песню і рухамі рук імітуй ігру на музычных інструментах.

# Мікіта

Беларуская народная песня

1. На дудзе Мікіта грае
   Ды людзей ён забаўляе.
Прыпеў: Мікіта, Мікіта,
   Так і гэтак Мікіта. } *2 разы*

2. Прыляцелі камары,
   З ім скакалі да зары.
Прыпеў.

3. На дудзе Мікіта грае,
   А мядзведзь яму спявае.
Прыпеў.



Спявай песню ў характары.
Суправаджай спевы рытмічным акампанементам:

Воплескі

Плескачы



## Сімфонія № 1
(II частка)

А. Глазуноў

Ці пазнаў ты мелодыю, якая гучыць у сімфоніі? Што ў ёй змянілася?
Якую карціну з жыцця народа малюе музыка гэтага твора?

## Журавель
Украінская народная песня

1. Повадился журавель, журавель
   На бабину конопель, конопель.
   Такой, такой журавель,
   Такой, такой зобастый,
   Такой, такой носастый,
   Такой, такой длинный,
   Конопельку щиплет.

2. Уж я того журавля изловлю,
   Сетью крылья обовью, обовью.

Такой, такой журавель,
Такой, такой зобастый,
Такой, такой носастый,
Такой, такой длинный,
Конопельку щиплет.



3. Чтоб он больше не летал, не летал,
Конопельку не щипал, не щипал.
Такой, такой журавель,
Такой, такой зобастый,
Такой, такой носастый,
Такой, такой длинный,
Конопельку щиплет.

? Які настрой стварае песня?
Выконвай яе з гульнявымі рухамі.

## Сімфонія № 2
(IV частка)

П. Чайкоўскі

Уяві сябе дырыжорам аркестра. У тваіх руках дырыжорская палачка. Перадай свабоднымі рухамі настрой музыкі.
Якая знаёмая табе мелодыя гучыць у сімфоніі?

## Пайшоў Ясь наш на лужок
Беларуская народная песня

1. Пайшоў Ясь наш на лужок*.
   Накасіў атавачкі** ён стажок.
2. Пайшоў Ясь наш аддыхаць.
   І сваю Настулечку стаў чакаць.
3. А Настулька не прыйшла,
   Маці дома ёй работачку знайшла.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.
** Атава — трава другога пакосу.



Падчас спеваў перадавай змест кожнага куплета выразнымі рухамі.

Беларускі кампазітар Мікалай Чуркін з вялікай павагай ставіўся да творчасці свайго народа. Ён сабраў вялікую колькасць беларускіх народных песень і танцаў.

## Сімфаньета «Беларускія карцінкі»

(фінал)

М. Чуркін

Звярні ўвагу, што ў творы выкарыстана некалькі мелодый. Вызначы характар кожнай мелодыі. Якая з іх гучыць больш яскрава?

**Сімфаньета** — гэта маленькая сімфонія.



Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча



Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча вядомы ў многіх краінах свету. Асноўнае месца ў ім належыць беларускім цымбалам.

## Цымбалы

Мы паездзілі  
Нямала —  
Беларускія  
Цымбалы.  
Песняй  
Сонечных бароў  
Частавалі  
Слухачоў.  
І вітаюць  
Ва ўсім свеце  
Нас дарослыя  
І дзеці.

В. Лукша





Канцэрт мае некалькі значэнняў: першае — гэта відовішча і другое — буйны музычны твор. Выконваюць яго аркестр і саліст. Яны нібы спаборнічаюць паміж сабой.

## Канцэрт для скрыпкі з аркестрам «Вясна»

(I частка)

А. Вівальдзі

Як гучыць музыка? Які інструмент саліруе? Якія з’явы прыроды адлюстроўваюцца ў музыцы? Что родніць музыку і верш?

### Весна

Приход весны встречая звонким пеньем,
Летают птички в голубых просторах,
И слышен плеск ручья и листьев шорох,
Колеблемых зефира* дуновеньем.
Но вот грохочет гром, и молний стрелы
Шлют небеса, внезапной мглой одеты,
И это всё — весенних дней приметы!

---

* Зефір — цёплы вецер, які прыносіць дождж.

## Сакавік — з сакатаннем і сокам
## Непаўторных вясновых бяроз…

…На музыку вясны
Наводзіць струны
Скупы яшчэ на сонца
Сакавік.
Да песні раўчукоў,
Бадзёрых, шумных,
Яшчэ ў жыцці сваім
Ён не прывык…

М. Чарняўскі



С. Жукоўскі. Вясенні бурлівы ручай

# Вяснянка

Беларуская народная песня

Умерана




1. Ляцяць галачкі
   Рад па радачку,
   Зязюленька —
   На прэдачку.



2. Усе галачкі
   На дубу селі,
   Зязюленька —
   На каліне.

3. Усе галачкі
   Шчабяталі,
   Зязюленька
   Кукавала.



## Шпак

Словы Я. Журбы — Музыка М. Анцава

1. Сонейка заззяла,
   К нам вясна прыйшла.
   Снег ужо растаяў,
   Рэчка загула.

2. З дальняе старонкі
   Прыляцеў к нам шпак,
   Сеў ён на шпакоўню
   І спявае так:

3. — Дзеткі, выхадзіце
Сустракаць вясну!
Ўстала ўжо прырода
З зімовага сну!

4. Я спяю вам песню
Пра далёкі край,
Дзе так дзіўна, ясна,
Дзе красуе май.

5. Шлюць шпаку рабяты
Дружны свой адказ:
— Шчыра мы вітаем
Твой зварот да нас!

6. На бярозе стройнай
Для цябе, дружок,
Мы даўно зрабілі
Новенькі дамок!

? Выканайце песню па ролях. Упрыгожце выкананне інструментальным суправаджэннем.



Валачобнікі — гэта людзі, якія на свята Пасхі з песнямі абыходзяць хаты. За гэта гаспадары даюць ім розныя пачастункі.

# Ды была ў бабкі курка рабенька

Беларуская народная песня




Прыпеў: Ой, зялёны явар,
Кудравы.

2. Ды прынесла яец
Поўны карабец.

Прыпеў.

3. Ой, ідуць-гудуць
Валачобнікі.

Прыпеў.

4. Ой, давала бабка
Ды ўсім па яечку.

Прыпеў.



Уяві сябе валачобнікам. Выканай песню так, каб яна атрымалася вясёлай, цікавай. Суправаджай спяванне ігрой на інструменце ці танцавальнымі рухамі.

## Мой родны край,
## Мая зямля спявала...
### Н. Гілевіч

## Кума, мая кумачка

Беларуская народная песня

1. — Кума мая, кумачка, дзе жывеш?*
Чаму мяне ў госцейкі не завеш?

2. — Ці ты, куме, розуму пытаеш?
Ці ты маёй хатачкі не знаеш?

3. А вунь мая хатачка ля вады,
З высокага дзераўца, з лебяды.

4. Яшчэ к таму сенечкі прыпляту,
З харошага дзераўца, з асату.

5. Тады цябе ў госцейкі пазаву,
Як свежае рыбачкі навару.

Выканай песню з сябрамі па ролях.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

## Канцэрт для скрыпкі з аркестрам (фінал)

П. Падкавыраў

Які настрой у канцэрце стварае знаёмая табе песня?
Перадай пластычнымі рухамі характар мелодыі скрыпкі і аркестра.
Чыя мелодыя гучыць больш мужна, рашуча, а чыя падобная на гуллівы ветрык-гарэзу?

## Наш край

Словы
А. Прышэльца

Музыка
Д. Кабалеўскага

1. То берёзка, то рябина,
Куст ракиты над рекой.
Край родной,
навек любимый,
Где найдёшь ещё такой!

2. От морей до гор высоких
Посреди родных широт
Всё бегут, бегут дороги,
И зовут они вперёд.



3. Солнцем залиты долины,
И куда ни бросишь взгляд —
Край родной, навек любимый
Весь цветёт, как вешний сад.

4. Детство наше золотое!
Всё светлей ты с каждым днём
Под счастливою звездою
Мы живём в краю родном!

? Спявай песню і пластычнымі рухамі перадавай яе настрой.

## Канцэрт № 3 для фартэпіяна з аркестрам
(II частка)

Д. Кабалеўскі

? Назаві знаёмую табе песню, якая гучыць у канцэрце.
Які інструмент яе выконвае?

# Дзякуй, музыка

Цэлы год па музычных канонах
Мы ў краіне музычнай жылі,
Шмат адкрылі музычных законаў,
Ведаў новых тут шмат набылі.

Захапляліся веліччу духа,
Як планета гучыць і пяе…
Навучыліся музыку слухаць,
Разумець і выконваць яе.

Свет музычны — бязмежны, высокі
Нам раскрыўся ў поўнай красе.
Непаўторныя музыкі ўрокі
Кожны ў сэрцы сваім пранясе.

Л. Кебіч



## Пытанні для паўтарэння

**1.** Што ты ведаеш пра оперу, балет, сімфонію, канцэрт?

**2.** Нагадай буйныя музычныя жанры, дзе песня не пяецца, танец не танцуецца, марш не маршыруецца.

**3.** У якім жанры песня пяецца, танец танцуецца, марш маршыруецца?

**4.** Як называецца самы вядомы беларускі народны музычны інструмент?

**5.** Успомні буйныя музычныя творы, дзе кампазітары выкарыстоўвалі народныя мелодыі.

**6.** Што ты чытаў пра музыку? Раскажы.

**7.** Ці быў у тваім жыцці выпадак, калі музыка зрабіла на цябе моцнае ўражанне? Якія гэта былі творы?

# ТВОРЧЫЯ ПРАЕКТЫ



Выберы адзін з праектаў і працуй над ім на працягу года.

## Выяўленчы праект

Ствары папку сваіх малюнкаў да музычных твораў, якія найбольш табе спадабаліся.

## Літаратурны праект

Складзі казку пра фею Музыку або жыхароў Музычнага каралеўства — Мелодыю, Рытм, Дынаміку, Тэмп, Скрыпічны ключ, ноткі і іншых.

## Музычны праект

Складзі мелодыі для герояў казкі «Церамок», або «Калабок», або іншай. Расказвай і спявай яе ад імя дзеючых асоб.

Прадстаў свой праект у класе на адным з апошніх урокаў па музыцы.

# ЗМЕСТ

## ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ БАЛЕТ . . . . . . . . . . . 96

## ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ СІМФОНІЯ .....114

Вучэбнае выданне

**Бракала** Ніна Іванаўна
**Кажанеўская** Ганна Баляславаўна
**Місцюк** Вера Антонаўна

# МУЗЫКА

Вучэбны дапаможнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

Для работы ў класе

| | |
|---|---|
| Рэдактар | *Т. У. Данілава* |
| Мастак вокладкі | *І. М. Куц* |
| Мастакі | *І. М. Куц, Н. А. Хромава* |
| Нотаграфік | *А. М. Шчыракоў* |
| Камп’ютарны набор | *Н. А. Пяткоўская* |
| Камп’ютарная вёрстка | *Н. М. Хаманеева* |
| Карэктар | *Т. У. Данілава* |

Падпісана ў друк 06.08.2012. Фармат 70 × 100/16.
Папера афсетная № 1. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 11,61. Ул.-выд. арк. 5,5. Тыраж 10 700 экз. Заказ

РУП «Выдавецтва “Адукацыя і выхаванне”».
ЛИ № 02330/639 ад 31.01.2012.
Вул. Будзённага, 21, 220070, г. Мінск.

ААТ «Паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009.
Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск.